


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.*

№ 25 (106). 17 — 23 чэрвеня 1999 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 25.000 руб.


# ПЛЯЖНЫ РЭПАРТАЖ,
## *альбо +30$^0$ у цяньку*







Фота Мікалая СУПРУНА

*(Матэрыял чытайце на 2 стр.)*

**НАВІНЫ**

### Панізілі ў пасадзе

**Былы начальнік Зэльвенскай міліцыі Сяргей Максімаў пераведзены ў Слонім на пасаду дзяжурнага медвыцвярэзніка.**

Падставай для гэтага, відаць, стаў той катэдж у Зэльве, які быў пабудаваны для Максімава за кошт рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў. Пра гэта "ГС" пісала ў №5 ад 28 студзеня.

Цяпер абавязкі начальніка Зэльвенскага РАУС выконвае Аляксандр Губар.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Сустрэліся з Папам Рымскім

**На мінулым тыдні каля 40 слонімскіх дзяцей пабывалі ў польскіх гарадах: Варшаве, Шчэдрыцы і Драгічыне, дзе сустракаліся з Папам Рымскім Янам Паўлам ІІ.**

Паездку дзяцей арганізаваў касцёл св. Марыі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### З вадой да гінеколага

**У Мастах на працягу трох тыдняў, за рэдкім выключэннем, не працуе жаночая кансультацыя.**

Прычына банальная – няма вады. Некаторыя жанчыны, якім вельмі неабходна трапіць на прыём да доктара, прыносяць ваду з сабой. Але медыкі вымушаны адказваць ім у прыёме, бо забараніла санэпідэмстанцыя.

**Антон МАКЕЙ**

### В Гродно больше всего автомобилей

**В Гродно на тысячу жителей насчитывается самое большее в Беларуси количество автомобилей.**

Самым «автомобилизированным» городом Беларуси является Гродно – на тысячу жителей здесь приходится 163 машины индивидуального пользования (в Минске – на 28 меньше).

Гродненские автовладельцы отдают предпочтение «Ауди» и «Фольксвагену». Вместе с тем, «Ауди» также пользуются повышенным вниманием автомобильных воров. Угонам благоприятствует то, что лишь около 30 тысяч автомобилей хранится в гаражах или на специально оборудованных стоянках.

Остальные – под окнами домов и квартир. Экологическое состояние Гродно – далеко не лучшее, особенно в исторической части города. 59% вредных веществ в общем количестве выбросов приходится именно на автотранспорт.

**БелаПАН**

**ПОШТА**

### Мазоль на калгасных плячах

Да вас звяртаецца жыхарка вёскі Чамяры. У газетах чытаю, па тэлевізары кажуць, што Беларусь – дэмакратычная дзяржава. А я хачу ведаць: якія законы абараняюць мае правы?

Сёлета кіраўніцтва калгаса "Дружба" выдзеліла мне 10 сотак самай кепскай зямлі пад бульбу. За апрацоўку дзялкі з мяне ўзялі 2 мільёны 400 тысяч рублёў і сказалі, што я з'яўляюся мазалём на плячах калгаса. Толькі калгаснікі могуць мець нармальныя соткі. Больш за 40 гадоў жыву ў вёсцы Чамяры. Мая свякроў – карэнная вяскоўка, пад час вайны была вязнем фашысцкага лагера "Асвенцым". Мой муж – інвалід вайны першай групы, памёр восем гадоў назад. Ён увесь час працаваў настаўнікам, я – на станцыі хуткай дапамогі, фельчарам. А цяпер, больш за 10 гадоў, як на пенсіі.

На працягу ўсяго жыцця трымаю карову, малако здаю ў калгас. Чула, што калгас павінен выдзеліць чалавеку столькі зямлі, скольки ён можа апрацаваць. Мне не трэба многа, але 10-15 сотак мне яшчэ пад сілу.

Таму бярэ крыўда за тое, што я ўсё жыццё адпрацавала на карысць дзяржавы, а цяпер высвятляецца, што не маю права нават на нармальны кавалак зямлі, каб спакойна жыць, не думаючы пра акрайчык хлеба.

**Ірына Паўлаўна БАГДАНЧУК**

**ЗДАРЭННІ**

### Патэльня "падпаліла" кафэ

**Ад нявыключанай электрапатэльні загарэлася кафэ "Дарожнае" у Зэльве.**

У выніку дрэннага абыходжання людзей з электрапрыборамі, у вёсцы Тулава агонь пашкодзіў трактар і касілку.

Увогуле, матэрыяльныя страты ад пажараў у траўні на Зэльвеншчыне склалі каля 300 мільёнаў рублёў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Наклалі на сябе рукі...

**На мінулым тыдні трое жыхароў Слонімскага раёна скончылі жыццё самагубствам.**

40-гадовага жыхара вёскі Ваўчуны выявілі павешаным на яблыні ва ўласным садзе. Аналагічным спосабам пакончыў жыццё ў садзе і 67-гадовы інвалід з Чапялёва. А 59-гадовую жыхарку вёскі Пятралевічы знайшлі павешанай у хляве.

Матывы самагубстваў высвятляе пракуратура.

### Ключ дапамог злодзеям

**У міліцыю звярнуўся жыхар вёскі Вострава Слонімскага раёна.**

Ён паведаміў, што з яго кватэры зніклі 22 мільёны рублёў, 61 даляр і 2 залатыя пярсцёнкі. Аператыўнікі ўстанавілі, што ў кватэру злодзеі трапілі, знайшоўшы ад яе ключ.

### Угоншчык вядомы

**Днямі жыхар з Брэсцкай вуліцы Слоніма В. паведаміў у міліцыю пра тое, што з гаража ўгналі ягоны "Мэрседэс".**

Праз дзень разбітую іншамарку знайшлі непадалёку ад вёскі Кракотка. Асоба ўгоншчыка ўстаноўлена, і цяпер яго шукае міліцыя.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Лета пачалося з трагедыі

**За апошні тыдзень на Дзятлаўшчыне ўтапіліся два чалавекі.**

На невялікім Жукоўшчынскім возеры 32-гадовы М. лавіў рыбу і захацеў пакупацца. Як толькі нырнуў – пачаўся сардэчны прыступ. Вада-зладзейка давяршыла справу.

Другі затануў у вадаёме ля вёскі Студзераўшчына.

### А было так весела...

**У адной з вёсак Дзятлаўшчыны спраўлялі вяселле.**

Калі госці выйшлі падыхаць паветрам, паміж двума мужчынамі пачалася бойка. У выніку адзін з іх атрымаў сатрасенне мозга, акрамя таго ў яго была пашкоджана скіўіца і моцна пабіты твар.

### Абакралі хворых

**У Наваельненскай бальніцы невядомыя, разбіўшы акно склада, залезлі ў памяшканне.**

Яны ўкралі 45 пачкаў кавы і цукар.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

### Згарэла летняя крама

**У Мастах згарэў пусты летні павільён, у якім у сезон прадавалі садавіну і агародніну.**

Павільён непасрэдна прымыкаў да дзвюх крамаў, але ад большай бяды выратавалі пажарныя.

**Антон МАКЕЙ**

### Вада — забойца

**10 чэрвеня ў Шчары, у раёне дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы, патануў 14-гадовы Анатоль Алейнікаў.**

Каля паловы шостай вечара ён ішоў па вадзе каля левага берага і нечакана трапіў на вялікую глыбіню. Выратаваць хлопчыка не паспелі...

А днямі вадалазы Слонімскай вайсковай брыгады паднялі з дна возера, што знаходзіцца ў мікрараёне Энка, труп 30-гадовага ваеннаслужачага кантрактнай службы Валерыя Самсонава.

**Алег ТАЧОНЫ**

### ПОМОГИТЕ НАЙТИ ЛЮДЕЙ!





9 мая 1999 года ушли на дискотеку "Оскар" Хомяков Виталий и Фидрик Анатолий. До настоящего времени они не вернулись. Кто видел или знает их место нахождения, просьба сообщить по тел. 2-00-68, 2-01-69 за вознаграждение. Анонимность и порядочность гарантируем.

**Родители**

# ПЛЯЖНЫ РЭПАРТАЖ, *альбо +30⁰ у цяньку*

**Спякотным днём так хочацца акунуцца ў прахалоду вады. Дзякаваць Богу, Слонімшчыну прырода шчодра надзяліла вадаёмамі.**

Слонімскі гарадскі пляж знаходзіцца на левым беразе Шчары за чыгуначным мастом. Наведалі мы яго ў сярэдзіне дня. Там бавілі час каля ста чалавек.

– Гэта не пляж, а сметнік. Паглядзіце, што тут робіцца вакол: шкло, папера, лаўкі паламаныя, смагу няма дзе спатоліць, – перабіваючы адзін аднога, скардзіліся слонімцы.

– Некалі на пляжы гучала музыка, прадавалі марожанае, ваду, а цяпер нічога няма. Чаму б не пабудаваць тут некалькі летніх альтанак ці адкрыць на купальны сезон выязныя буфеты, – раілі хлопцы і дзяўчаты.

Сярод адпачываючых мы сустрэлі і начальніка слонімскай выратавальнай службы Васіля Кулака. Яго каманда ў складзе пяці чалавек (два вадалазы, матарыст, сезонны матрос і медсястра) разам з ім дзяжурылі на пляжы.

– Глыбіня ў Шчары ў раёне гарадскога пляжа дасягае трох метраў. Мы тут дзяжурым па 12 гадзін у суткі штодзённа з 9.00 да 21.00, – сказаў Васіль Іванавіч. – Цалкам наша каманда кантралюе той водны ўчастак, які за намі замацаваны. Мы адказваем за ахову жыцця на водах, а не за сам пляж. А пляж у Слоніме вельмі запушчаны і дрэнны. Гарадскія ўлады на яго зусім не звяртаюць увагі. У нас тут няма тэлефона і магчымасці падключыць апаратуру, каб прапагандаваць сярод адпачываючых правілы бяспекі ў час купання. Бо гінуць не тыя, хто не ўмее плаваць, а тыя, хто парушае правілы паводзінаў на вадзе. Я працую на выратавальнай станцыі 16 гадоў і мне асабіста прыйшлося арганізоўваць гэтую службу, – заўважыў Кулак. – А раней на пляжы быў толькі пост. І адзін пенсіянер з кійком адганяў дзяцей ад вады. Цяпер на пляжы павінны працаваць не толькі наша служба, але і дворнік, міліцыя, гандаль. Пасля 21 гадзіны гарадскі пляж цалкам выходзіць з-пад кантролю, – сказаў начальнік Слонімскага АСВОДа Васіль Кулак.

Калі на гарадскім пляжы існуе выратавальная служба на вадзе, то на азёрах у Альбярціне, Энцы і Лабазоўцы такіх службаў няма ўвогуле. І калі чалавек пачне тануць, то мала верагодна, што знойдуцца добраахвотнікі яго ратаваць.

Акрамя гэтай праблемы на энкаўскім возеры адпачываючыя скардзіліся на тое, што тут брудная вада, а вакол возера пануе антысанітарыя...

Пляжны сезон у Слоніме толькі пачаўся, якім ён будзе – пакажа час.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Фота Мікалая СУПРУНА

## НАВІНЫ

### Власти решились...

**Совет Министров Беларуси внес изменения в постановление «Об оказании финансовой поддержки субъектам малого предпринимательства».**

Отныне за счет бюджета малым предприятиям может быть частично компенсированы не только проценты по инвестиционным кредитам банков, но и расходы по оплате лизинговых платежей.

Сейчас министерству предпринимательства и инвестиций предоставлено право устанавливать величину частичной компенсации малым предприятиям расходов по выплате процентов за пользование банковским кредитом, направленным на финансирование инвестиционных проектов, в размере до половины ставки рефинансирования Национального банка.

### Цивилизованное решение

**Конституционный суд Беларуси принял решение, на основании которого должностные лица отныне не имеют оснований отказывать гражданам в приеме на работу из-за отсутствия прописки.**

Обосновывая свое заключение, КС сослался на несколько конституционных норм: о праве граждан на труд как наиболее достойный способ самоутверждения человека; о праве свободно передвигаться и выбирать место жительства в пределах Республики Беларусь (ст. 30); о равенстве всех перед законом (ст. 22), а также на нормы международных правовых документов – Всеобщей декларации прав человека.

По всем этим нормам требование обязательной прописки при приеме на работу является разновидностью дискриминации и потому недопустимо.

**БелаПАН**

# СМАГА

**У гарачыя летнія месяцы людзей штодзённа хвалюе праблема, як прагнаць смагу.**

Фота Мікалая СУПРУНА

*Так летась прадавалі газіраваную ваду на плошчы Леніна*

### Аўтамат на плошчы Леніна

Калісьці ў Слоніме былі аўтаматы з газіраванай вадой. За тры капейкі можна было спатоліць смагу. Да сённяшняга дня ацалеў толькі адзін смагаўталяльнік – на плошчы Леніна. Яшчэ ў мінулым годзе ён працаваў, але вельмі арыгінальна. Жанчына-прадавец брала ў жадаючых выпіць стакан газіроўкі (а такіх хапала, нават чарга была) грошы і выдавала ім "тавар". Такім чынам яна выконвала ролю пасрэдніка паміж аўтаматам і спажыўцом, такі, ведаеце, жанчына-паўаўтамат. Пакуль невядома, ці будзе дзейнічаць ён сёлета...

### Піць усё роўна хочацца...

Ад смагі слонімцаў ратуе мінералка, а таксама разнастайныя недарагія напоі. Мінеральную ваду звычайна купляюць у літровых і паўтаралітровых бутэльках. Вельмі, дарэчы, зручна, бо іх не трэба пасля здаваць. А вось "колу" і "фанту" у падобнай тары бяруць горш. Па-першае, дорага, а па-другое, папулярнасцю карыстаюцца гэтыя напоі, разлітыя ў бутэлькі ёмістасцю 0,25 л. Менавіта іх трымаюць у крамах у халадзільніках, а, як вядома, у спякоту хочацца халодненькага. Праўда, многія сцвярджаюць, што пасля выпітай бутэлькі "колы" піць па-ранейшаму хочацца...

### Будзем з квасам

Слонімцы ўжо паспелі адвыкнуць ад такога раней папулярнага напою, як хлебны квас. У мінулым годзе ў горадзе ён не прадаваўся. А сёлета будзе. У гэтым карэспандэнта "ГС" запэўніў начальнік упраўлення гандлю гарвыканкама Уладзімір Сарока. Аказваецца, на слонімскім віназаводзе былі праведзены адпаведныя тэхналагічныя змены, якія дазволілі вырабляць хлебнага напою столькі, колькі яго можа рэалізоўваць гандаль. У выніку, ужо з 12 чэрвеня ў горадзе пачалі працаваць чатыры кропкі па продажу квасу: на вуліцах Брэсцкай, Савецкай (дзве) і Пушкіна. А 19 чэрвеня яшчэ адна такая кропка з'явіцца на Першамайскай вуліцы. "Так што, будзем з квасам", – упэўнены Уладзімір Сарока.

Хаця смага бывае розная. Хтосьці ратуецца ад яе з дапамогай квасу, а нехта ратуецца півам альбо гарэлкай. Асартымент апошняй вызначаецца сваёй вялікай разнастайнасцю і пастаяннай прысутнасцю ў гандлёвых кропках...

**Сяргей ЁРШ**

## АД ПЕРШАЙ АСОБЫ

# БЫТАВУХА ПА-СЛОНІМСКУ

Выпадкова сустрэў знаёмага. Усхваляваны данельга, ён пачаў выказваць набалелае:

– У пятым інтэрнаце КПФ атрымаў жыллё – блок на сям'ю з чатырох чалавек. У мяне двое малых дзяцей. А там сантэхніка: ракавіна разбіта, каб не відаць было баксіткай замазана. Я да каменданта, так, маўляў, і так, а ён кажа, што рамонт – гэта мае праблемы, а ракавіны на складзе няма... Бардак!

Бардак, канечне. Але паправімы. Галоўнае, жыллё атрымаў... Я параіў знаёмаму знайсці ракавіну і зрабіць рамонт сваімі сіламі. А то, як далі гэты блок, так могуць і забраць.

А ў самога якраз на гэты час – кульмінацыя бытавой (і не толькі) гісторыі. Аднак, усё па парадку.

У 1992 годзе я прыехаў па накіраванню БДУ у Слонім, каб пачаць працоўную дзейнасць у якасці настаўніка роднай мовы і літаратуры. Трапіў у восьмую школу. Адразу ўзніклі праблемы з жыллём. У гарадскім аддзеле адукацыі свайго інтэрната на той час не было. Маладыя настаўнікі павінны былі забяспечыць сабе жыллё самі: альбо здымаць кватэру, альбо шукаць месца ў нейкім інтэрнаце. Пазней турэцкія будаўнікі з фірмы "Энка" адрамантавалі будынак былой турбазы па вуліцы Войкава,21, што ў Альбярціне. Туды бяздомных настаўнікаў засялілі ў лютым 1993 года. А да таго часу кожную раніцу я дабіраўся на працу з роднай вёскі Вострава, што ў 25-ці кіламетрах ад Слоніма. Пад'ём – у пяць гадзін рані-цы, адбой – дзесьці пасля апоўначы. Такі своеасаблівы "курс маладога байца". Атрымаўшы месца ў інтэрнаце і прапіску на Войкава, 21, асаблівай радасці не адчуў. Нават у параўнанні са студэнцкім інтэрнатам – гэта хлеў з агульнай кухняй, прыбіральняй, душам і пральняй. Жыллё як бы часовае, падменка. Але не дарэмна кажуць, што няма нічога больш пастаяннага, чым часовае. Так атрымалася і ў мяне.

З пачатку існавання інтэрната яго камендантам стаў Анатоль Юзвовіч, дырэктар турбазы. Неўзабаве пасля засялення ён арганізавана ставіў на кватэрны ўлік усіх жыхароў інтэрната. На той момант мяне і майго суседа па пакоі не аказалася дома, і нам не хапіла бланкаў заявы. Калі пазней у размове з тагачасным загадчыкам аддзела адукацыі Алегам Лакцюшыным я спытаў, ці варта ўсё ж мне пісаць заяву, каб паставілі ў чаргу на атрыманне дзяржаўнай кватэры, ён шчыра адказаў, што гэта пустая трата часу... Сапраўды, ніхто са "старажылаў" інтэрната дзяржаўнае жыллё так і не атрымаў.

У чаргу на кааператыўнае будаўніцтва я не запісаўся сам. Магчыма, дарэмна. Але і цяпер не магу ўявіць, дзе б я мог знайсці грошы, каб выплаціць хаця б першы ўзнос?.. Настаўніцкая зарплата – курам на смех, гандлярскімі здольнасцямі не надзелены, багатай спадчыны не атрымаў, з іншых даходаў – толькі мізэрныя ганарары з літаратурных часопісаў...

А гады ішлі. Праца настаўніка забірала час, нервы, не пакідаючы пры "хранічным" крызісе ў краіне ніякай перспектывы на будучыню.

*(Працяг на 3 стр.)*

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 16 чэрвеня 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7.100 экз.
Заказ № 1680
© «Газета Слонімская»
Спасылка на "ГС" абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

# КУСТ КАЛІНЫ

На другі дзень пасля пахавання маці Сяргей пачаў збірацца ў дарогу.

— Пабыў бы, — ціха папрасіла сястра. Яна сядзела на табурэтцы каля яшчэ не вынесеных памінальных сталоў, маленькая, у чорнай жалобнай хусцінцы, нейкая згорбленая і да болю адзінокая. Ля стомленых шэрых вачэй заляглі глыбокія цені.

— Трэба ехаць, Каця. Сама ведаеш, дарога да Хабараўска далёкая, а мне паслязаўтра на службу.

Не крыўдуй... Сталы мы з бацькам павыносім, а вячэрнім цягніком я паеду.

— На добры толк, то і мне трэба збірацца, бо да Гомеля таксама не рукой падаць. Ды і дачка, Валя, не ведаю, як з малым упраўляецца. Яшчэ і месяца няма дзіцяці.

Каця сядзела пры маці. Тыдзень у бальніцы, а пасля тры дні, як яе выпісалі дамоў — паміраць. Хоць і была ў водпуску, але цягнула да сваёй сям'і.

— Я вось што думаю, Сяргей: на каго мы бацьку пакінем? — з заклапочанасцю старэйшай прамовіла Каця. — Мне яго забіраць няма куды. У двухпакаёвай кватэры я ды дачка з мужам і дзіцем. Цесната.

— У мяне хоць кватэра і вялікая, але ж ты ведаеш маю Алу: гэтая цаца старога бацьку дагледзець не будзе. Яна і сына нашага ўвесь час старалася сваёй маці спіхнуць, аж пакуль не вырас... А давай маміну сяброўку, Іванаўну, папросім бацьку дагледзець. Ён жа, нягледзячы на тое, што мае семдзесят тры гады, яшчэ мужык дужы. Але няхай Іванаўна падышла б калі бялізну памыць ці што смачнейшае з яды зварыць. Ёй, па-мойму, і сямідзесяці яшчэ няма. Кабета жвавая, на пахаванні бачыў.

— Калі згодзіцца,— няпэўна прамовіла Каця.

— Згодзіцца, я ёй грошай дам. І яшчэ калі прышлю і бацьку, і ёй.

Іванаўну ўпрошваць не прыйшлося. Сухенькая і рухавая, яна ў той жа дзень пачала парадкаваць у хаце пасля пахавання, гаспадарыць.

Праз некалькі дзён Каця ад'язджала ў свой Гомель з лёгкай душой, бо пераканалася: бацька будзе дагледжаны.

... Чатыры гады праляцелі, як чатыры гадзіны. За гэты час Сяргей ні разу не выбраўся ў госці да бацькі. Яму, ваеннаму чалавеку, усё не ставала часу. А як браў водпуск, то вазіў Алу на паўднёвыя курорты.

Кацярына таксама ўся была ў клопатах: праз год пасля смерці маці развялася з мужам яе дачка. Зяць пайшоў шукаць лепшай долі, а Валя з малым засталася пад матчыным крылом. Да таго ж яе скарацілі на рабоце, і жылі яны толькі на Кацін зарплату швачкі. Яна была мізэрнай, і даводзілася браць заказы на дом, да паўночы сляпіцца за швейнай машынкай, каб хоць неяк звесці канцы з канцамі. На мінулым тыдні Валя нарэшце ўладкавалася поварам у дзіцячы садок, пачала вадзіць у той садок і малога, і Каця ўздыхнула з палёгкай. Яна вырашыла не абмяжоўвацца кароткімі пісьмамі, якія рэгулярна пасылала бацьку, а гэтай восенню сабрацца і з'ездзіць у свой родны гарадок, што ў Заходняй Беларусі.

З пісьмаў Каця ведала, што Іванаўна па-ранейшаму даглядае бацьку. Нават мачые ў яго, бо яе нежаданы сын, якому ўжо даўно пераваліла за сорак і які ўсё не мог падабраць сабе нявесту, пайшоў у прымы да нейкай удавы і цяпер разам з ёй жыве ў вёсцы, даглядае вялікую гаспадарку, гадуе трое чужых дзяцей. А дачка Іванаўны таксама развялася з мужам і вярнулася з сынам на роднае котлішча. Дарослы ўнук любіў чарку, і таму ў яго з Іванаўнай часта ўзнікалі канфлікты. Жыць у Кацінага бацькі ёй было лепш ва ўсіх адносінах.

Каця ўжо сабралася ў дарогу, нават білет купіла на ранішні цягнік, як позна вечарам прынеслі тэлеграму: Іванаўна паведамляла, што бацька пры смерці.

Ноччу ўсё роўна ехаць няма на чым, і Кацярына, ледзь дачакаўшыся раніцы, паехала ў свой гарадок. Але не паспела... Бацька ўжо быў сабраны ў апошнюю дарогу: у новым касцюме, якога Каця ў яго раней ніколі не бачыла, у новых, відаць, дарагіх, туфлях. Твар яго (ці то падпух, ці ў апошнія гады бацька папраўіўся), выглядаў памаладзелым і зусім не спакутаваным.



Малюнак Яўгена ІВАНОВА

— Інсульт у яго, — плачучы, паведаміла Іванаўна. — Як страціў тры дні назад прытомнасць, то больш і не прыйшоў у сябе.

Слёзы ў старой жанчыны былі не паказныя, а сапраўдныя. І Каця, гледзячы на забітую горам Іванаўну, з няёмкасцю адзначыла, што сама яна не так шкадуе бацьку, як гэта чужая жанчына. Асуджала сябе, а не яе. І за тое, што жалю ў сэрцы мала, і што за чатыры гады ні разу не выбралася ў родную хату.

Сяргей на пахаванне не прыехаў. Пазваніў, што вельмі шмат неадкладнай работы, і што яны з Алай забралі да сябе хворую цешчу, а цяпер Ала не спраўляецца адна яе даглядаць.

Каця давала грошы на пахаванне, але Іванаўна не ўзяла.

— У нас ёсць свае, — адхіліла яна Кацін руку з тоўстым жмутом купюраў. І гэтае "у нас" неяк непрыемна студзіла душу: як пра свайго гаворыць.

Пасля пахавання, калі яны з Іванаўнай засталіся ўдзвюх мыць посуд, Каця выказала свае думкі ўслых:

Ці то мне хату прадаць, ці няхай яшчэ пастаіць? Можа калі Сяргей у водпуск прыедзе, тады разам і прадамо. Хаця ён у пісьме пісаў, каб прадавала і грошы забірала сабе, яму, пісаў, нічога не трэба.

Іванаўна, што выцірала чарговую талерку, застыла з ручніком у руках.

— Пра якую хату ты кажаш, Кацечка? — насцярожылася.

— Чаму пра якую? Пра гэту, пра сваю.

— А гэта хата ўжо тры гады, як мая. Пасля смерці маці бацька адчуваў сябе няважна. Паглядзеў, што ад вас дапамогі ніякай, прапанаваў мне распісацца. А потым і хату на мяне перапісаў. Ён увесь час казаў, што я перажыву яго. Мусіць, душа чула.

— І вы згадзіліся?!

— На што? — не зразумела Іванаўна.

— Ну, на ўсё гэта. Бацька ж наш, і хата наша. А пры чым тут вы?

— Праўда, нібыта і ні пры чым, — ціха прамовіла Іванаўна. — Проста даглядала яго чатыры гады... А, між іншым, ён казаў, што ты будзеш супраць. Сяргей, казаў, не будзе, а ты будзеш.

Ён бы можа і не перапісваў, але ж мне ўжо няма дзе жыць. Унук п'е бязбожна, маці сваю, маю дачку, з хаты ганяе, а мяне дык і наогул — ні на вочы. У сваім родным куточку месца не маю, — гаротна ўсхліпнула Іванаўна. — Вось бацька твой, бачачы ўсё гэта, і сказаў:

— Будзеш дажываць свой век тут. І ніхто цябе адсюль не выганіць.

Абедзве маўчалі. Потым Іванаўна, прыпёршыся спіной да вушака, загаварыла зноў:

— Ты, Кацярынка, не думай, што я моцна буду трымацца за гэту хату. Калі ты супраць, то знайду сабе куточак, дзе памерці, а хату прадавай. Пярэчыць не буду. Грэх было б пярэчыць. Яе будавалі твае бацькі, ты і карыстайся. Дарма мы з бацькам не абгаварылі гэта своечасова ні з табой, ні з Сяргеем... Дарма...

Каця маўчала. Іванаўна наліла ў тазік вады, узяла анучу і пачала мыць падлогу. Каця бачыла, як яна тайком змахвае са шчок слёзы, і горыч пякучай віны перад бацькам, перад гэтай старой жанчынай апаліла ёй душу. Каб Іванаўна спрачалася, настойвала на сваіх правах, яна б можа не адчувала сябе так прыкра.

— Божа, што я тут нагаварыла, — з жалем падумала жанчына. Выгнаць яе з хаты — усё роўна, што ў жабрака адабраць апошнюю лусту хлеба.

Яна падышла да старэнькай, калі тая адхілілася ад тазіка з вадой, каб намачыць анучу на швабру, і ласкава прытуліла да сваіх грудзей яе маленькую сівую галоўку.

— Даруйце, Іванаўна. І дзякуй вам за ўсё, — прамовіла са слязамі.

— І ты мне даруй, дзіцятка. І мяне, і бацьку свайго не асуджай строга. Бог нас асудзіць...

Назаўтра Каця ад'язджала. Іванаўна праводзіла яе як родную дачку, перахрысціла і пацалавала на развітанне. Яны ўжо выйшлі на вуліцу, як раптам Іванаўна вярнулася ў агародчык, дзе рос куст каліны і з якога асенні вецер ужо абарваў амаль усе лісты, і адарвала гронку буйных сакавітых ягад.

— На, унуку завязеш замест цацкі. Гэта бацька твой летась пасадзіў. Прыжылася каліна, нібы тут і расла. Як і я прыжылася...

Каця выйшла за ваколіцу. Тулячыся ад халоднага асенняга ветру, усё аглядалася назад, дзе ў родным агародчыку чырвоным агнём гарэла каліна. Ёй здавалася, што гэта бацька глядзіць услед, як і некалі, благаслаўляе ў дарогу.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

---

АД ПЕРШАЙ АСОБЫ

# БЫТАВУХА ПА-СЛОНІМСКУ

Стары будынак інтэрната з часам пачаў разбурацца. Як на тое, пакой трапіўся пад адкрытым балконам другога паверха. Ад дажджоў і снегу прагніла столь, на ёй завёўся грыбок, пачала асыпацца тынкоўка, а са сцяны — адклейвацца шпалеры. На нашы заяўкі пра рамонт ад каменданта чулі нязменнае: "Ніхто вам рамонт рабіць не будзе. Няма грошай. А не падабаецца — шукайце кватэру..." Так у "Газеце Слонімскай" №33 за 1998 з'явіўся мой артыкул пра інтэрнат "Войкава,21". Анатолю Юзвовічу, натуральна, не спадабалася, што вынеслі смецце з хаты...На сходзе жыхароў у пачатку восені 1998 года начальнікі з аддзела адукацыі, аднак, паабяцалі, што рамонт інтэрната запланаваны на лета наступнага года (лета палачося, рамонт — не). Мой жа лёс склаўся так, што ў сярэдзіне кастрычніка 1998 года я развітаўся са школай і перайшоў на сталую працу ў рэдакцыю газеты... І вось тут пачалося самае цікавае.

Дзён праз дзесяць пасля майго звальнення са школы камендант пачаў прапаноўваць мне вызваліць месца ў інтэрнаце, паколькі я ўжо, маўляў, не работнік сістэмы адукацыі. Атрымалася, што, пражыўшы шэсць гадоў у гэтым інтэрнаце, я пазбавіўся права на жыллё... Пачаў шукаць новае месца.

А тым часам Анатоль Юзвовіч і аддзел адукацыі ўсё настойлівей патрабавалі майго высялення. Нават ліст за подпісамі загадчыка Аркадзя Бумагіна і старшыні прафсаюза Клаўдзіі Суравай прыслалі. З ліста я даведаўся, што мне "неабходна да 1 траўня 1999 г. выселіцца з інтэрната работнікаў адукацыі..., у адваротным выпадку пытанне аб высяленні будзе разглядаца ў судовым парадку." Але справа да суда пакуль што не дайшла. Замест гэтага Юзвовіч загадаў вынесці з майго пакоя казённую мэблю. Выносілі, чамусьці, у тры прыёмы. Першым разам — ложкі і тумбачкі, праз некалькі дзён — стол-парту і крэсла, а на завяршэнне — вешалку і... сметніцу. Пры гэтым апошні "вынас" рабілі, калі мяне не было дома...

Я працягваў шукаць жыллё і ўзяўся замяніць стары савецкі пашпарт на новы беларускі. Якраз пашпарт і стаў казырнай картай у руках каменданта.

Па сваіх абавязках камендант павінен паставіць у новым пашпарце штамп прапіскі, а без прапіскі — не ставяць штамп візы "выезд ва ўсе краіны свету". Юзвовіч прадыктаваў мне ультыматум: "Пакуль не вызваліш пакой — у новым пашпарце я цябе не прапішу..." Пры гэтым сказаў, што так яму загадалі ў аддзеле адукацыі.

Я запоўніў бланкі прапіскі, напісаў заяву з просьбай паставіць злашчасны штамп. Прыняць і зарэгістраваць пісьмовую заяву камендант адмовіўся, параіў ісці да загадчыка гарадскога аддзела адукацыі, маўляў, што "ён скажа". Я пакінуў запоўненыя бланкі і "пусты" пашпарт у кабінеце Юзвовіча і накіраваўся ў аддзел адукацыі.

Аркадзій Рафаэлавіч выслухаў мяне, потым выклікаў Клаўдзію Аляксееўну, параіўся з ёй , што рабіць са мной. Разам яны выказалі мне недавер у тым, што я калісьці з'еду з Войкава, 21, а нацонт прапіскі загадчык папрасіў перазваніць праз некалькі дзён. Патэлефанаваў. Заявілі, што ён нічога не можа вырашыць, а патрэбна мне запісацца на прыём да старшыні гарвыканкама.

Трапляю на прыём да Алега Лакцюшына. Пасля кароткай гутаркі мэр паведамляе: "Вас прапішуць і выпішуць." — Калі? — пытаюся. Адказвае, што прапіска — гэта не іх кампетэнцыя. Вядома, гэта кампетэнцыя ўсё таго ж Юзвовіча, а ў яго сейфе ляжыць мой пашпарт. Кола, такім чынам, замкнулася.

Праз некалькі дзён пасля прыёму ў мэра тэлефануе Юзвовіч і заводзіць старое: " Калі ўжо вызваліш пакой?" Я ў сваю чаргу пытаюся, калі будзе прапісаны мой пашпарт. Адказ адназначны — калі з'еду з інтэрната.

Чыноўнікі ў Слоніме, мякка кажучы, пакідаюць дрэннае ўражанне.

Успамінаецца анекдот пра Сталіна і Берыю, дзе апошні скардзіцца гаспадару на міністраў: адзін злодзей, другі п'яніца, трэці бабнік... Сталін выслухаў і кажа: " Што ж, Лаўрэнцій, іншых чыноўнікаў у мяне няма — працуй з тымі, што ёсць..." Нешта падобнае і ў маёй гісторыі — другіх чыноўнікаў няма, і чалавек вымушаны мець справу з тымі, якія ёсць.

**P.S.** Тым не менш, хацелася б ведаць стаўленне пракуратуры: наколькі правамернымі з'яўляюцца дзеянні (ці бяздзеянне) таго ж Анатоля Юзвовіча і кампаніі ў дачыненні ўзгаданага факта высялення з інтэрната і адмовы ў перапрапісцы?

**Мікола КАНАНОВІЧ**

